# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 51 (1597) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 21 СНЕЖНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.




На здымку злева направа: акадэмік Дзмітрый Ліхачоў, намеснік дырэктара Дома Савецкай культуры і навукі Любім Капыленка (паказвае беларускую кнігу з тэкстамі „Слова") і акадэмік Іван Навуменка.

Фота Е. Сломкі

## ІВАН НАВУМЕНКА Ў ВАРШАВЕ

З нагоды 800-годдзя славутага помніка старарускай літаратуры „Слова пра паход Ігаравы" прыехалі ў Польшчу вядомы даследчык літаратуры Кіеўскай Русі акадэмік Дзмітрый Ліхачоў і віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, папулярны беларускі празаік і літаратуравед Іван Навуменка. Дзевятнаццатага лістапада ў Доме Савецкай культуры і навукі ў Варшаве адбылася ўрачыстая акадэмія, у якой узяло ўдзел больш чым шэсцьсот слухачоў. Падчас гэтай акадэміі быў прачытаны варшаўскімі акцёрамі пераклад „Слова пра паход Ігаравы" на польскую мову, зроблены Ю. Тувімам. Пасля гэтага выступілі з дакладамі, прысвечанымі „Слову", Іван Навуменка і Д. Ліхачоў. Навуменка прачытаў даклад, які ён падрыхтаваў у саўтарстве з прафесарам Алегам Лойкам. Дакладчык схарактарызаваў „Слова" на фоне беларускай літаратуры, а пасля перайшоў да вельмі цікавых рэмінісцэнцый, звязаных з уплывам „Слова" на беларускую сучасную літаратуру і асабліва на творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа. Дарэчы, Янка Купала быў першым беларускім перакладчыкам „Слова" на сучасную беларускую мову. Акадэмік І. Навуменка грунтоўна спыніўся на гэтай праблеме, кранаючы заадно і справу апошняга перакладу „Слова" на беларускую мову зробленага Рыгорам Барадуліным. Пры нагодзе І. Навуменка прадставіў сабраным вельмі цікавую беларускую кнігу, у якой змешчаны арыгінальны тэкст „Слова", а таксама пераклады Купалы і Барадуліна. Падчас урачыстасці быў уручан Навуменку залаты ганаровы знак ТППР.

На другі дзень Іван Навуменка сустрэўся на факультэце русістыкі і прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага універсітэта са студэнтамі і выкладчыкамі Кафедры беларускай філалогіі. Беларускі пісьменнік і вучоны расказаў аб структуры Акадэміі навук БССР, аб Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе ён многа гадоў працаваў выкладчыкам, і аб сваёй творчасці. Падкрэсліў, што яго жыццёвы шлях пралёг, між іншым, і праз польскую зямлю. Было гэта ў

(Працяг на стар. 5)

* * *

Якія ночы за акном!..
Я ведаю — табе не спіцца.
Во ніча́ся нашага сініца
Звініць —
Ёй не забыцца сном...

**Алесь Пісарык**

### ПОГЛЯДЫ

## НЕ ПАДДАМОСЯ!

„Ніва" гэта адна з рэдкіх газет, у якой друкуюцца дасканалыя матэрыялы, часта напісаныя простымі людзьмі. Такіх газет, будучых трыбунаю простага чалавека, праўду кажучы, мала ёсць у нашай краіне. „Ніва" даступная кожнаму, кожны мае рэальную магчымасць выказаць сваё слова, свае думкі і прапановы на яе старонках. Рэдакцыя „Нівы" — гэта нашы людзі, і яны не робяць ніякіх перашкод у тым, каб усялякі чалавек змог браць публічны голас у ёй. Трэба дадаць, што дзякуючы чытанню ды пісанню ў „Ніву" — шмат хто з беларусаў навучыўся пісаць на літаратурнай беларускай мове. Адзін з нашых добрых людзей, Васіль Петручук, дзякуючы „Ніве" і толькі „Ніве" стаў пісьменнікам, выдае свае кніжкі.

Калі кніжку Петручука „Пожня" пераклалі на польскую мову, дык трэба думаць, што яна сапраўды мае вялікую вартасць не толькі для беларусаў, але і палякаў. Яе прыгожа выпусціла ў свет варшаўскае выдавецтва „Чытэльнік" вялікім дваццацітысячным тыражом. Калі б гэта была дурная кніжка, то яе не толькі ніхто не выдаў бы ў Беластоку, але нікому не прыйшло б і ў галаву яшчэ перакладаць у Варшаве. Гэта факт! Альбо наш слаўны Сакрат Яновіч. Ён жа і электратэхнік па сваёй першай прафесіі, а глянь-це: стаў не толькі вядомым, але і слаўным аўтарам сваіх беларускіх кніжак, якія ўсе да апошняй перакладзены палякамі на іхнюю мову ды яшчэ і за

(Працяг на стар. 4)






## АБ ЦЭНАХ КНІЖАК

У пачатку лістапада давялося мне выступіць у тэлебачанні і сказаць тое-сёе аб перакладах польскай літаратуры на мовы народаў Савецкага Саюза. І вось пасля гэтага майго, можна сказаць, сімвалічнага выступлення, бо трывала яно ўсяго дзве мінуты, раскудахтаўся мой тэлефон. Пачалі званіць знаёмыя, віншаваць, захапляцца, апрабаваць. Многія зрабілі гэтае ж самае, сустрэўшыся са мною на вуліцы, ва універсітэце, у цягніку і нават на далёкай Беласточчыне. Зрабілася мне зноў сумна. Абуралася маё сэрца па той прычыне, аб якой я ўжо калісьці пісаў. Чаму гэта, пытаў я сам сябе зноў, ніхто і ніколі, сустрэўшы мяне, не гаворыць нават слова аб маёй творчасці, а так бурна рэагуе на маё двухмінутнае выступленне ў тэлебачанні? Якую ж рэмінісцэнцыю насоўвае гэтае здарэнне? Вельмі простую: тэлебачанне з'яўляецца сёння сапраўдным гігантам і, калі хтосьці марыць аб папулярнасці, павінен усімі сіламі пхацца на экран.

Хачу, аднак, сёння затрымацца не над тым, што я сказаў у тэлебачанні, а над тым, чаго не сказаў. А гаворачы больш дакладна, над тым, што я сказаў, але з чаго фахоўцы з тэлебачання так многа выразалі, што, мабыць, ніхто з гледачоў нават і не заўважыў, што нешта там было выразана. А было выразана наступнае: Zwracam się z tego miejsca do tych ludzi, którzy mają decydujący głos w sprawie ustalenia cen na książki polskie sprzedawane w ZSRR i książki radzieckie sprzedawane w Polsce i w ogóle na ceny wszelkich książek. Posłużę się przekonywającym przykładem. Oto dwa tomy z trzydziestotomowego wydania dzieł Dostojewskiego w języku rosyjskim, które kupuję od 1972 roku po dzień dzisiejszy. O ile za pierwszy tom Dostojewskiego kupiony w 1972 roku zapłaciłem niecałe dwadzieścia złotych, to za kupiony przedwczoraj 29 tom tego pisarza zapłaciłem 370 złotych. To znaczy, że cena tomu Dostojewskiego wzrosła o 2000 procent. To samo dotyczy cen polskich książek sprzedawanych w ZSRR. Jeżeli nie powstrzymamy procesu gwałtownego podnoszenia cen książek, to uruchomimy wielce niepożądany proces zmniejszającego się zainteresowania książką polską w ZSRR i książką radziecką w Polsce".

Як я ўжо напісаў, гэты фрагмент быў выразаны. Няхай сабе. Бяда аднак у тым, што праблема ўсё больш растучых цэн кніжак засталася. Два гады таму назад выйшаў том рускіх казак у маім перакладзе на польскую мову, з маім уступам. Кніга называецца „Mocarni czarodzieje" і каштуе 300 злотых. Мая сястра Люба з Бандароў чытае ўсе мае пераклады. На працягу тыдня прачытала таксама „Mocarnych czarodziei". Чытала памаленьку і вельмі далікатна абыходзілася з кніжкай. Нягледзячы на гэту далікатнасць, праз тыдзень хрыбет ад кніжкі зусім адваліўся і давялося яго прыклейваць пластырам. Дзеці, як вядома, наогул абыходзяцца з кнігамі больш бесцырымонна, чым дарослыя. Думаю, што ў тых экземплярах „Mocarnych czarodziei", якія чыталі дзеці, хрыбты адваліліся пасля двух-трох дзён. Падумайма, культурны прадукт — кніга, які павінен быць разлічаны, як гэта было ў мінулым, на сотні гадоў, распадаецца пасля трох дзён. Якую апінію такі факт выстаўляе і друкарам, і рэдактарам, і нашай тэхніцы і ўвогуле нашай дзяржаве? Апінію вельмі дрэнную. А прынцыпы павінны быць вельмі простыя: за салідную суму грошай трэба даць чытачу салідную кніжку.

**Алесь Барскі**






### МІНСК

У Мінску 15 лістапада адбылася шостая справаздачна-выбарная канферэнцыя Беларускага аддзялення таварыства савецка-польскай дружбы (ТСПД), якая падвяла вынікі работы за 1981—1986 гады, намеціла перспектывы далейшага развіцця сяброўскіх і культурных сувязей беларускай і польскай грамадскасці.

Дакладчык — намеснік старшыні праўлення аддзялення, дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР П. Ц. Петрыкаў, выступіўшыя дэлегаты расказалі аб рабоце, якую праводзяць актывісты таварыства, знаёмячы польскі народ са знешне-палітычным курсам Савецкай дзяржавы, рашэннямі XXVII з'езда КПСС, дасягненнямі працоўных Беларусі па іх выкананню, а грамадскасць Беларусі — з поспехамі Народнай Польшчы ў сацыялістычным будаўніцтве. У справаздачны перыяд створана 36 новых пярвічных арганізацый ТСПД. З поспехам прайшлі ў Польшчы Дні беларускай літаратуры, Дні Савецкага Саюза на прыкладзе Беларускай ССР. У Беларусі адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя юбілейным датам у жыцці польскага народа.

Канферэнцыя выбрала новы састаў праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы. Яго старшынёй зноў стаў Максім Танк.

### ГОМЕЛЬ

Клуб аграномаў гаспадарак, якія змагаюцца за дасягненне ўраджайнасці ў сто цэнтнераў збожжа з гектара, створаны ў Гомельскай вобласці. У яго ўвайшлі не толькі спецыялісты перадавых калгасаў і саўгасаў, наватары збожжавай нівы, але і вучоныя рада вядучых сельскагаспадарчых інстытутаў рэспублікі, прадстаўнікі прадпрыемстваў, якія пастаўляюць сваю прадукцыю аграпрому.

Ініцыятарамі стварэння клуба выступілі хлебаробы Жыткавіцкага раёна, дзе многія гаспадаркі сёлета сабралі ў сярэднім па 50-60, а на асобных участках па 80-90 цэнтнераў збожжа з гектара.

### МАГІЛЁЎ

Станцыя па запраўцы аўтамабіляў прыродным газам уступіла ў строй у Магілёве. Яе праектная магутнасць — пяцьсот запраўак у суткі. На новае, больш таннае паліва ў горадзе пераводзяцца грузавікі дзвюх марак — „Зіл-130" і „Газ-52-53". Адной запраўкі дастаткова на 160-180 кіламетраў прабегу.

Пераход са звычайнага гаручага на газ толькі ў маштабах адной запраўачнай станцыі сэканоміць народнай гаспадарцы звыш паўмільёна рублёў у год. Большы тэрмін будуць служыць рухавікі аўтамашын, зменшыцца расход змазачных маслаў. Ды і чысцей стане гарадское паветра, таму што выкід адпрацаваных газаў скарачаецца ў некалькі разоў.

Цяпер у Магілёве будуецца другая станцыя такой жа магутнасці.

### ВАЎКАВЫСК

У Ваўкавыскім раёне ў вытворчым аб'яднанні „Ваўкавыскцэментнашыфер" адкрыты прафілакторый. Размешчаны ён у лесе, непадалёку ад ракі Рось, за якой раскінуў свае карпусы санаторый з такой жа назвай. І прыгожа, і, што таксама немалаважна, да заводскага пасёлка рукой падаць — менш за тры кіламетры.

Гэта вельмі зручна, не трэба многа часу на дастаўку людзей з работы ў прафілакторый. Зрэшты, тут можна і водпуск правадзіць. Умовы для гэтага не горшыя, чым у любым доме адпачынку. Утульныя пакоі з добрай мэбляй на двух чалавек. Найноўшай тэхнікай аснашчаны лячэбныя кабінеты. Адпачываючыя могуць прайсці тут курс фізіятэрапіі, займацца лячэбнай фізкультурай, прымаць разнастайныя ванны, да іх паслуг стаматалагічны кабінет.

Першы заезд у прафілакторый прадставілі ветэранам вайны і працы. А ўвогуле разлічана, што на працягу двух год у ім змогуць пабываць практычна ўсе працаўнікі калектыву. На будучы год намячаецца расшырэнне прафілакторыя. Тады ён зможа прымаць удвая больш адпачываючых, прычым не толькі цэментнікаў, а і працаўнікоў з іншых ваўкавыскіх прадпрыемстваў.

### СПОРТ

Вольная барацьба. Зборная СССР у сёмы раз запар выйграла Кубак свету па класічнай барацьбе, розыгрыш якога праводзіўся на гэты раз у Чыкага. У заключным матчы савецкія барцы перамаглі гаспадароў дывана-зборную ЗША з лікам 10:0. У ліку пераможцаў — спартсмен з Віцебска Ігар Каныгін.




## КАЛІ ХОЧАШ СТАЦЬ ШПІЁНАМ...

Яшчэ гадоў пяць-дзесяць назад, у часы разрадкі, прафесія шпіёна лічылася за акіянам адной з самых ганебных. ЦРУ з цяжкасцю вербавала сабе новых супрацоўнікаў. Але, як кажуць, усё цячэ, усё змяняецца. Як піша італьянскі часопіс „Панарама", у 1985 годзе заявы аб прыёме ў Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне падалі 150 тысяч чалавек, што ў дзесяць разоў перавышала патрэбнасці. А ўступныя экзамены вытрымалі толькі каля 1 працэнта з іх.

Тысячы няўдачнікаў, якія сталі і бачылі сябе суперменамі з кольтамі за пазухай і туга набітымі кашалькамі, упалі ў адчай. Але нечакана папулярная газета „Маямі геральд" працягнула ім выратавальную саломінку. „Хочаш стаць добрым шпіёнам? — гаворыцца ў аб'яве, надрукаванай тут нядаўна, — прыходзь да нас і навучышся!"

Аўтар аб'явы — добра вядомы ў Злучаных Штатах Гордан Лідзі. Побач з яго імем можна было б каля тузіна разоў паставіць слова „былы" — былы адвакат, былы супрацоўнік ФБР, былы акруговы пракурор, былы саветнік Белага дома, былы... зняволены. У свой час ён аказаўся ўблытаны ў сумна вядомую Уотэргейцкую справу і некалькі гадоў правёў у турме. Цяпер Гордан Лідзі вырашыў стварыць нешта накшталт пачатковай школы шпіянажу.

Двухтыднёвы курс навучання ў яго ўстанове каштуе 2.700 долараў. Тут вучаць ілгаць і выкручвацца, уціраццa ў давер'е і красці, страляць з розных відаў зброі і ўстанаўліваць хітрамудрыя зарады, маскіруючы іх пад дзіцячыя цацкі і г.д., рабаваць і насільнічаць, калечыць і забіваць...

У разважных людзей вучэбная праграма гэтай установы выклікае агіду і абурэнне. Але Гордан Лідзі і яго кампаньёны перакананы: „Гэта адзіная сур'ёзная школа ў Злучаных Штатах. Мы рыхтуем людзей, здольных на ўсё".

На ўтрыманне трох шпіёнскіх ведамстваў — Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення, разведвальнага ўпраўлення міністэрства абароны, агенцтва нацыянальнай бяспекі — ЗША трацяць штогод 24 мільярды долараў. А вынікам тайных аперацый спецслужбаў за пасляваенны перыяд сталі 3 мільёны загінуўшых, каля 5 мільёнаў калек.

Найбольш здольныя са шпіёнаў пад выглядам дыпламатаў, эканамічных саветнікаў, журналістаў і да т.п. будуць рыскаць па краінах і кантынентах, раздуваючы ачагі напружанасці ў гарачых пунктах планеты, раздзімаючы вятры халоднай вайны. Астатнім знойдзецца нямала работы і дома.

Нядаўна ў кангрэсе ЗША падрыхтаваны даклад, у якім гаворыцца, што 85 камп'ютэрных сістэм дзень за днём, гадзіна за гадзінай сочаць за 114 мільёнамі амерыканцаў, на якіх складзены падрабязныя дасье. На службу шпіянажу пастаўлены навейшыя дасягненні навукі — сачэнне вядзецца з дапамогай тэлевізійных сістэм, інфрачырвоных сістэм начнога назірання, мініяцюрных перадатчыкаў, электронных датчыкаў і г.д. Падслухоўваюцца звычайныя тэлефонныя размовы і размовы, якія вядуцца праз штучныя спадарожнікі, перахопліваюцца дакументы, перадаваемыя па кабелю.

**І. А.**

# Стрыкі — жывыя і з гісторыяй

Вёска Стрыкі была вядомая ўжо ў часы Кутузава, геройскага маршала ў Айчынную вайну 1812 года. Ёсць чутка, што маршал Кутузаў як галоўнакамандуючы расійскай арміяй, маліўся ў стрыкоўскай царкве падчас пагоні за недабойкамі французскай арміі, якая прапала ў снягах Расіі. Гэтая царква стаіць тут і цяпер, на могліцах, што ў прыгожым сасновым лесе, сярод высокіх старадаўніх крыжоў.

Заехаў я ў Стрыкі на Пакроўку, гэта значыць у першую нядзелю па Пакрове. Пасярэдзіне Стрыкоў — вялікі дом солтыса Лёніка Сычэўскага. Стрыкоўцы — гэта даволі заможныя гаспадары, у іх чатырыста сорак гектараў ворнай зямлі, сто восемдзесят — лугоў. Цікавая статыстыка насельніцтва гэтай мясцовасці. Усіх жыхароў тут 171 чалавек. У іх ліку дваццаць два — дашаснаццацігадовага ўзросту, дваццаць дзевяць — ва ўзросце паміж шаснаццаццю і трыццаццю пяццю гадамі. Ёсць сорак дзве гаспадаркі. Усё гэта значыць, што Стрыкі не выміраюць, не пусташэюць так трагічна, як іншыя, праўда, на бяднейшых землях.

Трэба дадаць, што ў Стрыках ёсць неблагі гурток КГВ і ёсць таксама трох членаў ЗСЛ.

Стрыкоўцам былі вельмі патрэбны дарогі ў поле і яны, не чакаючы нічыёй ласкі, самі пабудавалі іх сабе. Солтыс кажа: як пасцелеш сабе, так і спаць будзеш. Дагледзелі дарогу ў Аўгустова, пабудавалі ў Малінава. „Найбольш крыўдна нам цяпер, што няма ў нас клуба, няма каму арганізоўваць культурную дзейнасць для ўсяе вёскі", — гаворыць заклапочаны солтыс.

Усяго зроблена многа, а з культурнаю работаю стрыкоўцы не даюць рады, — вось новы знак часу. Бо хаця б і з дарогамі тымі: пабудавалі яны дарогу яшчэ і ў Лубін, жвіроўку ў тры кіламетры. Пабудавана і ронда для аўтобуса ПКС, такое дарожнае кальцо з прыпынкам. І пажарнікаў семнаццаць чалавек налічваецца, пад камандай Фёдара Сычэўскага. Былі ж сёлета вялікія пажары, у Аўгустове згарэла пяць стадолаў, у Малінаве — тры, і да далейшых Стацэвічаў ездзілі стрыкоўскія пажарнікі гасіць агонь, там гарэлі аборы.

У Стрыках жыве цікавы народны ўмелец Іван Шымковіч. Сцены яго дома паабвешваныя малюнкамі прыроды, краявідамі, маляванымі на палатне. Яго жонка Надзя кажа пра свайго мужа: калі быў ён маладзейшым, то маляваў іконы ў цэрквах. А сама Надзя тчэ на кроснах дываны з воўны, у дзве нічальніцы. Яны ёсць і ў іхным доме, сам я бачыў іх — прыгожыя ўзоры. Дываны тчэ яшчэ адна ўмеліца, Люба Краўчук. Нясуць ёй воўну, і яна сама задумвае ўзоры заказаных у яе дываноў, такія нашыя ўзоры, беларускія, памятаныя ёю ад бабулі сваёй. Гэта вельмі важная справа — захаванне роднай традыцыі, абарона яе ад фабрычнай безгустоўшчыны, тандэты.

Самым старым чалавекам Стрыкоў лічыцца Іван Пугацэвіч, якому ўжо восемдзесят тры гады. Ад яго гэта пачуў я пра арыгінальныя назвы мясцовых урочышчаў і палеткаў, як Палог — гэта месца, дзе расла вялізная тапаля і дзе хаваўся адзін катаржнік, што ўцёк з рускай турмы; ёсць мясціны, назвы якіх зразумелыя нам і без тлумачэння — Папоўшчына, Зароўе (за ровам), Загора (за горкаю), Бярэзнік, Марга (ад моргаў, даўняй меры зямлі).

Пугацэвіч расказаў і пра мясцовыя легенды. Каля крыжа, што ля дарогі ў Шасталы, калісьці вельмі страшыла штосьці. Аднаго разу вяселле ехала тудою і раптам коні перасталі цягнуць фурманкі, тады вясельнікі пайшлі пешкі далей. Калі рана вярнуліся ў тое месца — вяселле ехала ўвечары — то ўбачылі, што нічога там асаблівага не было. Палохаліся людзі таксама агеньчыкаў на старадаўніх могілках, званых Барaвіска, што ў лесе і блізка цяперашніх, паміж Аўгустовам і ручаём Любка. Ёсць таксама горка, парослая бярэзнікам, пра якую гаварылася, што адпачываў на ёй цар Іван Грозны (хоць вядома, што Грозны ніколі не быў у Рэчыпаспалітай).

Так я пабываў у Стрыках і наслухаўся там усялякіх цікавых быліцаў. Ад іх пачынаецца гістарычная свядомасць.

**Андрэй Гаўрылюк**




## БЯЗДУМНАЯ АШЧАДНАСЦЬ

У апошнія гады затрубілі-загаварылі пра неабходнасць ашчаднасці матэрыялаў на фабрыках, у гутах, а ў крамах паставілі скрыні, каб людзі кідалі ў іх пластыковыя ўпакоўкі, пакрыўкі ад бутэлек з малаком і смятанаю і іншае. Вядзецца ўжо скупка рознатыпных бутэлек і слоікаў. Здавалася б, усё добра і, нарэшце, разумна робіцца. Аднак, лагічна падумаўшы, ці даволі ўсяго таго, і ці сапраўды прадумалі справу? Бо слоікі купляюць ад людзей, але трэба, каб такі слоік быў адразу з пакрыўкаю (без пакрыўкі не бяруць). Ну добра: якая ж гэта гаспадыня панясе прадаваць слоік з пакрыўкаю, га? Ёй самой такі патрэбны! Таму так слаба адбываецца скупка тых слоікаў, зусім марна. Бутэлькі таксама не ўсе прымаюць, не кожную прымуць на скупцы. Чаму? Кожная бутэлька гэта гатовы выраб, гатовае шкло. Няўжо ў шкляной гуце лягчэй выплавіць новае шкло, чымсьці пераплавіць гатовае на патрэбны фармат новых бутэлек? — пытаю я. Гэта падумаць цяжка, колькі ўсялякіх бутэлек людцы вымушаны выкідаць на сметнікі, закопваць у зямлю, каб ног не пакалечыць, і гэтак далей. Колькі гэта тонаў гатовага шкла ляжыць ужо ў зямлі? Для каго? Для будучых археолагаў і даследчыкаў нашай цывілізацыі праз тысячу гадоў? Каб нашы праправўнукі даведаліся, як мы марнатраўна жылі і дабром раскідаліся?

Маю прапанову: не хочаце купляць бутэлек усялякіх, дык хоць скрыні вялізныя на іх пастаўце ў людных месцах, людзі самі будуць кідаць, каб на сметнік не валачы... І забраць такую поўную скрыню ў гуту, а на яе месца пустую зноў паставіць. Так робяць у Еўропе, там ніхто не кажа, што гэта не аплачваецца. Толькі ў нас усё не аплачваецца. Мы не Еўропа, ці як?

**Аўрора**

(Працяг са стар. 1)

## ІВАН НАВУМЕНКА Ў ВАРШАВЕ

час апошняй вайны, калі І. Навуменка як салдат Чырвонай Арміі вызваляў спачатку паўночныя, а пасля паўднёвыя раёны Польшчы. Пісьменнік адзначыў, што перажыванні, звязаныя з тымі часамі, знайшлі адлюстраванне ў яго трылогіі: „Сасна пры дарозе", „Вецер у соснах" і „Сорак трэці".

Пасля вельмі цікавага выступлення акадэміка Навуменкі сабраныя паставілі яму рад пытанняў, якія галоўным чынам адносіліся да моўнай праблемы ў БССР. Як пытанні, так і адказы мелі выключна шчыры характар. У часе размовы Іван Навуменка праінфармаваў сабраных, што стаў падпісчыкам „Нівы" на 1987 год.

У нядзелю 23 снежня Польскае тэлебачанне задэманстравала размову з акадэмікамі Навуменкам і Ліхачовым, падчас якой гаварылі яны аб агульнасусветным значэнні „Слова пра паход Ігаравы".

Ад'язджаючы І. Навуменка падкрэсліў творчае значэнне візіта і патрэбу ўзаемных кантактаў у галіне навукі, літаратуры і культуры.

**А. Баршчэўскі**

**скі,** прысутны на гэтым жа ўрачыстым заканчэнні конкурсу „Залатая веха-86", найперш павіншаваў усіх яго пераможцаў, а затым заявіў:

— Радасць і шчасце будуць тады болей поўныя і ўстойлівыя, калі ўзнагароджаныя будынкі заселіць да апошняга месца пародзістая жывёла, а ў дамах вашых і нашых мараў будуць жыць шчаслівыя сем'і. Бо нялёгка быць земляробам на Беласточчыне. Нашае ваяводства па якасці глебы займае 47-ае, значыць, другое ад канца месца ў краіне. Аднак па аб'ёму сельскагаспадарчай вытворчасці мы — на 30-31 месцы. Было нават, што мы дасягнулі 26 месца, значыць, наблізіліся да сярэдняга ўзроўню для цэлай краіны. Неспрыяльныя ўмовы адкінулі нас крыху назад. Шмат у нас яшчэ нявыкарыстаных рэзерваў. Бо як растлумачыць такую з'яву, што, для прыкладу, у гмінах Бранск, Драгічын, Тыкацін, Гайнаўка збіраюць ураджай на ўзроўні 26—28 цэнтнераў з гектара, а ў гмінах Крынкі, Гарадок, Міхалова, Васількаў, Супрасль ніяк не могуць дайсці і да 20 цэнтнераў? Тут не толькі якасць глебы іграе галоўную ролю, але і спосаб яе выкарыстання. І калі я чую, што ў вёсках разгортваецца рух па спаборніцтву за прыкладнае будаўніцтва, дык гэта мяне вельмі радуе. Я ведаю, што на ўдзельнікаў конкурсу „Залатая веха" можна разлічваць, яны не падвядуць у нашых імкненнях, каб Польшча за хуткі час дабілася харчовай самастойнасці. Хто будуецца на вёсцы, той там будзе жыць і працаваць.

✲

Арганізатары конкурсу рашылі паказаць нам хаця некаторыя ўзнагароджаныя будынкі. Найперш мы спыніліся ў вёсцы **Скіндзеж.** Тут пад нумарам 12 жыве **Ян Залеска,** які гаспадарыць на 18-ці гектарах зямлі.

Конкурсную камісію зацікавіў яго хлеў, у якім зараз знаходзіцца 6 дойных кароў, 10 бычкоў і 4 свінаматкі з прыплодам. Адным словам, жывёлагадоўля настаўлена тут на поўны гудок.

Для пабудовы гэтага хлява гаспадар выкарыстаў палявое каменне, некаторыя з гэтых валуноў вельмі ж аграмадныя. Даводзілася іх калоць. Гаспадар кажа, што рабіў гэта старэнькі майстар пры яго дапамозе. Працавалася ім вельмі спраўна. Такім чынам пабудова гэтай аграмаднай і добра абсталяванай аборы ў 1975 годзе каштавала яму ледзь 300 тысяч злотых. Цяпер гэтую суму прыйшлося б памножыць хіба на дзесяць. Асобныя каменныя глыбы вельмі дакладна тут дапа-

(Працяг на стар. 6)



Гэты хлеў Яна Залескі з вёскі Скіндзеж будзе прадстаўляць Беласточчыну ва цэнтральным конкурсе „Залатая веха — 86".

 

# ІКОНА СВ. МІКОЛЫ ЦУДАТВОРЦА

Ва Успенскай царкве ў Кляшчэлях знаходзіцца шмат каштоўных іконаў. Большасць з іх узнікла ў XVIII ст.., XIX ст і ў пачатку XX ст. Ікона святога Міколы Цудатворца асабліва каштоўная і цікавая не толькі парафіянам, але і культурнай спадчыне Праваслаўнай царквы. З ёй звязаны лёс кляшчэлеўскай праваслаўнай парафіі і брацтва святога Міколы.

Ікона гэтая ўзнікла, як высветлена, аж у першай палове XVI стагоддзя, гэта значыць каля чатырохсот гадоў таму назад, і праз цэлы гэты час знаходзілася яна ў кляшчэлеўскай царкве. Гэтая царква была пабудавана перад 1570 г. З гэтага года захавалася першае ўпамінанне пра святара кляшчэлеўскай царквы. Цяжка сёння ўстанавіць, ці ікона св. Міколы была алтарнай. Не захаваліся дакладныя вопісы, на падставе якіх можна было б устанавіць гэта. У XVI ст., побач з Мікалаеўскай царквой, была ў Кляшчэлях яшчэ адна царква, Юр'еўская (згарэла яна 25 верасня 1924 г.), і касцёл св. Зыгмунта, пабудаваны на кошт каралевы Боны ў 1544 г.

У канцы XVI ст. быў утвораны ў Кляшчэлях прытулак для бедных і хворых, званы шпіталем, а ў пачатку трыццатых гадоў XVII ст. арганізавалася брацтва. Царкоўнае брацтва, пра якое ёсць упамінанні ў гістарычных крыніцах 1633 г., асабліва ўшаноўвала ікону менавіта св. Міколы. Брацтва лічыла яе сваёй галоўнай іконаю, перад якою штонядзелі адбываліся акафісты (малітвы да святога аб заступніцтве). На выбар



гэтай іконы як галоўнай мела ўплыў прафесійная структура брацтва, у якім знаходзіліся пераважна гандляры і рамеснікі. Св. Мікола лічыўся апекуном гандляроў, купцоў. Дадатковы ўплыў на культ гэтай іконы аказвала, вядома, і сама назва царквы, Мікалаеўскай, пры якой існавала гэтае брацтва.

Царкоўнае брацтва св. Міколы адыграла важную ролю ў абароне царквы і яе значэння. 29 жніўня 1633 г. уніяты адабралі Мікалаеўскую царкву ў Кляшчэлях. У выніку пратэстаў таго ж брацтва кароль Уладзіслаў IV вымушаны быў паслаць у Кляшчэлі спецыяльную камісію, якая, разгледзеўшы справу на месцы, загадала вярнуць гэтую царкву праваслаўным. Брацтва вяло таксама шырокую асветную дзейнасць, заснавала брацкую школу, выпускнікі якой паступалі потым у Кракаўскі універсітэт. Паводле справаздачы ад 1822 г., якая захавалася, гэтая школа існавала нават тады, калі брацтва было ўжо уніяцкім па сваім характары. Гаворыцца ў справаздачы, што ў брацкую школу хадзіла семдзесят хлопчыкаў і дзесяць дзяўчынак на ўзросце ад 7 да 12 гадоў. Навучалі ў ёй чытаць і пісаць, а таксама царкоўнаславянскай, старабеларускай і польскай мовам, матэматыцы, агародніцтву, царкоўным спевам. Шмат хто з тых, што закончылі гэтую школу, сталі потым настаўнікамі ў сялянскіх школах у Дашах, Чаромсе, Кузаве, Дабры-

# ЗАЛАТАЯ ВЕХА-86

(Працяг са стар. 5)

саваныя, а ў сярэдзіне будынак ацеплены цэглай. Усё разам выглядае вельмі ж прыгожа. І з першага позірку відаць, што Ян Залеска асаблівую ўвагу прыдае ўтрыманню чысціні і парадку. Пры такой колькасці жывёлы ў яго на панадворку чыста, як у нейкім салоне, расце роўненькая, зялёная трава, без адзінай крапівінкі ці іншага пустазелля.

Глядзелі мы яшчэ адзін хлеў у вёсцы **Панікла,** што ў гміне Дабжынева Касцельнае. **Яе** ўласнік **Фелікс Адамскі** гаспадарыць на дзесяці гектарах. На цесным панадворку не меў ён месца, каб разгарнуцца ўшыр. Пабудаваў тады доўгаваты, проста „кішачны" будынак, у якім стойлы абсталяваны толькі ў адзін рад. Ёсць іх 8 і 2 дадатковыя перагародкі для цялят, ды адно месца для родаў. Хлеў абсталяваны водаправодам-аўтаматам і механічнай шуфляй для ачысткі гною. Я пытаў, чаму гаспадар не абсталяваў сабе ланцуговага ачышчальніка. Аказваецца, што ланцугі ад ачышчальнікаў такой слабой якасці, што і тыдня часу не працуюць, разрываюцца, трэба без перапынку сядзець над імі са зварачнымі апаратамі. А гэтая шуфля, з электрарухавіком, магутнасцю ледзь на 1,1 кілавата, поўнасцю дастатковая, каб аблегчыць чалавеку цяжкую працу пры ачыстцы гною. Такі спосаб прыдумалі спецыялісты з Ваяводскага ўпраўлення па сельскагаспадарчых укладаннях. Яны таксама звярталі нам увагу яшчэ на адну асаблівасць, якая адносіцца да будынка Фелікса Адамскага. Гэтая пабудова выканана з лёгкіх бетонаў, якія на аснове драўляных стружак і попелу з электроўняў прадукуе Валянцін Кендысь у вёсцы Касцюкі каля Харошчы. Адзін гэтакі пустак каштуе зараз 180 злотых. Феліксу Адамскаму спатрэбілася тысяча штук. Усё іншае рабіў ён сам, так што кошт пабудовы не перавысіў у яго 1 мільёна злотых.

З вёскі **Панікла** адправіліся мы ў **Кнышын,** каб наведаць **Яна Какарэку** ў яго новым жылым асабняку, які заваяваў прызнанне конкурснай камісіі ў рамках конкурсу „Дом маіх пажаданняў". Гэта сапраўды прыгожы будынак, асабліва захапляе яго ўнутранае абсталяванне. Усюды элегантна абсталяванае, абгабляванае, адшліфаванае, і памаляванае дрэва.

— Не падумайце, што гэта ўсё за долары! На жаль, я сам у Амерыцы не быў і не маю там шчодрых сваякоў, — засцерагаецца гаспадар. Гэта параўнальна яшчэ малады чалавек, інжынер па адукацыі, выпускнік Беластоцкай палітэхнікі, які зараз ужо трэці год карыстаецца выхаваўчым водпускам, бо жонка яго працуе ў кнышынскім ГСе. На працягу гэтых трох гадоў свайго водпуску ён і пабудаваў гэты дом.

— Усё, што тут бачыце, — гаворыць ён, — выканаў я ўласнымі рукамі.

І гэтым спосабам, дабаўлю ад сябе, даказаў ён на практыцы, як можна дайсці да ўласнага выгоднага памяшкання, не чакаючы па дзесяць і болей гадоў кааператыўнага „М". Варта наведаць пана Яна Какарэку і асабіста пераканацца, што немагчымае, здавалася б, калі моцна захочацца, калі чалавек прынатужыцца, дык гэтае „немагчымае" сапраўды здзяйсняецца. Жыве ён у Кнышыне, на вул. Легіёнсвай 9. Варта таксама пацікавіцца ўсімі іншымі лаўрэатамі конкурсу „Залатая веха-86", але пра іх пытайце ўжо ў сваіх мясцовых гмінных інструктараў па будаўніцтву.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ВАСІЛЁК БЕЛАРУСКІ

## АРТЫКУЛ ТРЭЦІ

Бадай што ні адзін з беларускіх нашаніўскіх аўтараў не зрабіў так многа для еўрапеізацыі беларускай паэзіі, як Багдановіч. Гэтая еўрапеізацыя не перашкодзіла ў нічым ні нацыянальнаму каларыту, ні нацыянальнай праблематыцы. І якраз гэтае набліжэнне беларускай літаратуры да літаратур еўрапейскіх было адным з трох галоўных літаратуразнаўчых пастулатаў паэта. Багдановіч лічыў, што беларуская пісьмовасць не можа заставацца назаўсёды ў сялянскім запечку. Ідэю набліжэння беларускай літаратуры да еўрапейскіх літаратур Багдановіч рэалізаваў трыма спосабамі.

Па-першае, перакладаў на беларускую мову вершы з многіх еўрапейскіх моў. Такім чынам пераносіў на беларускі грунт здабыткі літаратур многіх еўрапейскіх народаў.

Па-другое, многія свае вершы ствараў згодна з так званымі страфічнымі нормамі, якія сфармаваліся ў еўрапейскіх літаратурах, пачынаючы ад старажытнай Грэцыі і Рыма, а канчаючы пачаткам дваццатага стагоддзя. Дзякуючы Багдановічу ў беларускую паэзію ўвайшлі як яе арганічная частка такія формы, як: санет, трыялет, актава, ронда, раманс, элегія. Уводзячы гэтыя формы ў сваю паэзію, Багдановіч імкнуўся даказаць, што беларуская мова дастаткова гнуткая і эластычная для таго, каб пры яе дапамозе адолець найбольш складаныя паэтычныя формы.

Па-трэцяе, Багдановіч стараўся ў сваёй творчасці вырвацца з вельмі характэрнай для нашаніўскіх паэтаў сялянскай манатэмы. У сувязі з тым, што нашаніўцы наогул паняцце беларускага народа атаясамлівалі з сялянствам, стараліся амаль усю сваю творчасць замкнуць у рамках сялянскай праблематыкі. Багдановіч, сам інтэлігент, па-другому глядзеў на гэту праблему. Лічыў, што беларуская нацыя, калі не зараз, дык у будучыні мусіць складацца з розных сацыяльных праслоек і класаў. У сувязі з гэтым намагаўся ўвесці ў творчасць таксама такую тэматыку і праблематыку, якая ў тым часе яшчэ не была даступнай разумоваму сялянскаму дыяпазону.

Трэба падкрэсліць, што пастулат еўрапеізацыі беларускай літаратуры як тэарэтычна, так і практычна быў Багдановічам вырашаны вельмі паспяхова.

Другі тэарэтычны пастулат Багдановіча нібы пярэчыць першаму. Паэт прапануе наблізіць беларускую прафесійную паэзію да паэзіі народнай, да фальклору. Магло б здавацца, што рэалізацыя такога пастулата будзе якраз формай загону беларускай паэзіі ў сялянскі запечак. Зразумела, што такі загон не мог бы спрыяць еўрапеізацыі беларускай пісьмовасці. Аднак такі вывад сведчыў бы аб паверхнасным разуменні літаратуразнаўчых ідэй Багдановіча.

Якраз гэты другі пастулат сведчыць аб тым, што Багдановіч, выказваючы думку аб еўрапеізацыі беларускай літаратуры, ні ў якім выпадку не хацеў скіраваць яе на антынародны касмапалітычны грунт. Імкнучыся наблізіць беларускую пісьмовасць да еўрапейскіх узораў, стараўся захаваць у ёй нацыянальную беларускую душу.

Паэт лічыў, што ў фальклоры найглыбей адлюстраваліся беларуская душа, і беларускі характар і беларуская жыццёвая філасофія. У такой сітуацыі новая беларуская літаратура ў ніякім выпадку не павінна адштурхоўвацца ад галоўнага духоўнага здабытку мінулых эпох — фальклору. Трэба сказаць, што Багдановіч дасканала вывучыў у маладосці шматлікія беларускія фальклорныя зборнікі. Дзякуючы гэтаму дасканала адчуваў і ведаў беларускую народную паэзію. У сувязі з гэтым не меў цяжкасцей з перанясеннем на грунт сваёй паэзіі з аднаго боку фармальных фальклорных прыёмаў, а з другога — з выкарыстаннем у сваёй творчасці паасобных тэматычных фаль-



 

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Рыхтуемся да ёлкі

# ПРЫХОДЗЬ, ЁЛКА!

**Пачатак у папярэднім нумары**

П е ц я. Ты добры Лясун. А чаму ты такі страшны? Вунь якія ў цябе сукі тырчаць.

Л я с у н. Гэтыя сукі вясною зелянеюць. Як увесь наш лес, якому ты хацеў зрабіць крыўду.

П е ц я. А што я такога зрабіў? Елку ж трэба недзе высекчы. Я старшыня ёлачнай камісіі.

Л я с у н. Калі ты старшыня ёлачнай камісіі, дык ты павінен ведаць, што для навагодняга свята елкі вырошчваюць у спецыяльных школках. А гэтыя, лясныя, нельга чапаць.

П е ц я. А ў мінулым годзе Снягурачка нам лясную елку прывозіла.

Л я с у н. Снягурачка не член ёлачнай камісіі. Яна асаблівае стварэнне... Ну, пайду па лесе прайдуся. Можа, яшчэ каго спаткаю... *(Выходзіць.)*

П е ц я. Нічога не скажаш, суровы дзядуля. Але дзе ж мне ўсё-такі елку ўзяць? *(Зноў бярэ пілу і, крадучыся, падыходзіць да елкі).*

Г о л а с Л е с у н а. Ты зноў за сваё?

*Пеця спалохана адбягае далей.*

П е ц я. Усё бачыць! А Снягурачцы можна? *(Раптам падскоквае.)* Ой, што я прыдумаў! Мая сястрычка Таня рыхтуецца быць Снягурачкай, а касцюм у шафе вісіць! Я зараз! *(Выбягае).*

*Паяўляецца Снягурачка.*

С н я г у р а ч к а *(спявае).*
Верыцца не верыцца,
Што вятрак зноў верціцца.
І схованка знойдзецца,
А там цацак мроіцца.
Ёлачку-зялёначку
Упрыгожыць мушу...
Ёлачка-зялёначка,
Я цябе не рушу.
Тут кожнае дзераўца
Можа мне даверыцца.
Гэй, вавёрка рыжая,
Цябе не пакрыўджу я!

*На апошніх словах песенькі паяўляецца Лясун і ўважліва слухае Снягурачку, задаволена ківаючы галавой.*

Л я с у н. Хораша спяваеш, прыгажуня!

С н я г у р а ч к а. Здароў, добры Лясун!

Л я с у н. Здароў, здароў. І песенька твая добрая: „Елачку не рушу, вавёрку не пакрыўджу". Значыць, закон аб ахове прыроды ведаеш.

С н я г у р а ч к а. А як жа! Я лес люблю!

Л я с у н. Любіш, любіш, а я вось чуў, што ў мінулым годзе елку без дазволу з лесу забрала.

С н я г у р а ч к а. Як „без дазволу"! Хто табе сказаў?

Л я с у н. Сустрэўся тут мне адзін хлапчук. Пеця яго завуць.

С н я г у р а ч к а. Ах, гэта Пеця? Мала таго, што непаслухмяны, яшчэ і ілгун!

Л я с у н. Вось і я падумаў, што няпраўду сказаў. Але па сваёй дабраце не пакараў яго. Наступны раз трапіцца, пакараю. А ты чаго адна па лесе ходзіш? А мо штосьці трэба?

С н я г у р а ч к а. Трэба, добры Лясун, трэба. Дзед Мароз за цацкамі паслаў, яны ў лесе схаваны, а я з дарогі збілася.

Л я с у н. А ён цябе куды паслаў?

С н я г у р а ч к а. Да ветрака. Толькі яго нідзе няма.

Л я с у н. Ай-яй-яй! *(У залу).* Дзеці, а вы бачыце вятрак?

*Дзеці адказваюць.*

І правільна, што не бачыце. Вятрак жа чароўны. Каб яго ўбачыць, трэба чароўныя словы сказаць.

С н я г у р а ч к а. Ой, праўда! Яны ж у дзядулі Мароза ў плане былі напісаны, але я згубіла.

Л я с у н. Дык вось слухай! Толькі гэта трэба голасна сказаць.

Вятрак, вятрак,
Круціся, не лянiся,
Крыламі ўнізе,
Крыламі ўвысі
Ты перад намі
Пакажыся!

С н я г у р а ч к а. А я разам з дзецьмі. *(У залу.)* Паможаце мне?

*Дзеці з залы адказваюць. Снягурачка разам з залай паўтарае чароўныя словы. Пры апошнім слове на заднім плане паявіўся сілуэт ветрака.*

Ой, глядзіце! А наступныя чароўныя словы я памятаю. *(Гаворыць, звяртаючыся да ветрака.)* Вятрак, вятрак, пакажы крылом, дзе цацкі ляжаць, пад якім кустом?

*Вятрак паказвае крылом.*
Дык вось куды трэба ісці.
*Выходзяць.*

Д з е д М а р о з *(уваходзячы).* Да чаго ж хутка бегае гэты сарванец! Іду па слядах, ніяк не даганю! *(Глядзіць на ногі.)* Каб не збіцца! І Снягурачка да гэтага часу не вярнулася. *(У залу.)* Дзеці, вы не бачылі Снягурачку?

**(Працяг на стар. 10)**



**Ева Сапяжынская з Курашава, Гражына Галаванчык з Клевікаў і Эля Раманюк з Чыжоў найлепш выступілі ў раённым дэкламатарскім конкурсе ў Гайнаўцы сярод дзяцей малодшых класаў.** **Фота Я. Чэрнякевіч.**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Рыгор Барадулін**

### ШУКАЛІ КАЧАНЯ

**І каля
Качана
Шукалі
Качаня,
І каля
Таўкача
Гукалі
Ўцекача,
Пакуль пра качаня
Сказала кацяня:
— Ягоныя сляды
Пабеглі да вады!**

### ФАРФОР

**Кот вясёлы
Са стала
Скінуў вазу
На падлогу.
На стале
Адна была,
На падлозе
Стала многа.
Ды аб тым,
Што скінуў вазу,
Кот прызнаўся
Не адразу.
Зараз,
Гледзячы на двор,
Муркае:
— Фар-фор,
Фар-фор.**

**Станіслаў Шушкевіч**

### МЕСЯЦ

**З-за узгорка, праз платы,
Выйшаў месяц залаты,
А над ім павісла хмарка.
Глянуў — зоркі свецяць ярка.
Лес і поле асвяціў,
Усё, як ёсць, пазалаціў.
Бачыць: спіць усё наўкола —
Гарады, пасёлкі, сёлы.
Рад спакою, цішыні,
Паглядае з вышыні.
Будзе ён свяціць бясконца,
Покуль спіць за лесам сонца.**

**Васіль Зуёнак**

### НЕПАСЕДА-ВЕСЯЛУН

**— Ці ты зблізку, ці здалёк
Прыкаціўся, ручаёк?
Дзе ты быў і дзе ты жыў,
З кім гуляў і з кім дружыў?**

**Адказаў нам ручаёк:
— Я не зблізку, не здалёк,
Я з высокай хмаркі,
Што ляцела шпарка
Над палямі, над лясамі
І спынілася над вамі.**

**Вецер хмарку абярнуў —
Цёплы дождык сыпануў!**

**За струменьчыкам
струменьчык —
Дзе травінка, дзе каменьчык —
У абгонкі скок ды скок,
І радзіўся ручаёк.**

**Непаседа-весялун,
Гаманлівы булькатун —
Буду з вамі я гуляць,
Вам караблікі люляць!**

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## КІЕЎСКАЯ РУСЬ

**Заканчэнне.**

**Пачатак у папярэднім нумары**

Потым Уладзімір набраў сабе іншых жонак, і Рагнеда моцна крыўдзілася на яго. Нават спрабавала зарэзаць мужа, але князь у апошні момант пазбег смерці. На запытанне, чаму адважылася на такое злачынства, княгіня адказала:

— Мне ўжо горка стала. Ты ж майго бацьку забіў і зямлю яго зняволіў з-за мяне, а цяпер не кахаеш мяне і дзіцятка нашае.

Раззлаваны князь усё ж рашыў пакараць яе смерцю. Загадаў ён ёй апрануцца ў тое адзенне, у якім яна была ў час іхняга вяселля, і чакаць яго прыходу. Княгіня прыбралася ў багатую вопратку, Ізяславу ж дала ў рукі меч і наказала:

— Калі ўвойдзе бацька, тады выйдзі наперад і скажы: „Айцец, ты тут не адзін, я буду сведкам“.

Сын зрабіў так, як казала маці, і збянтэжаны Уладзімір кінуў свой меч, загадаў сабрацца княжацкай радзе і расказаў ёй пра ўсё. Рада яму параіла:

— Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, але аднаві яе бацькаўшчыну і аддай ёй з сынам.

Уладзімір паслухаў парады, аднавіў Полацкае княства і перадаў яго Ізяславу і Рагнедзе. Загадаў таксама збудаваць у Полацкай зямлі горад і назваў яго імем сына — Ізяслаўль“.

Калі Ніна скончыла чытаць, настаўнік падзякаваў ёй і дадаў:

— Пасля Ізяслава ў Полацкім княстве панавалі яго сыны, унукі, праўнукі. Так аднавіўся і ўсталяваўся аж на тры стагоддзі род полацкіх князёў Рагвалодавічаў.

Тураўскае княства Уладзімір аддаў свайму сыну Святаполку.

Князь Уладзімір межы вялікай кіеўскай дзяржавы ўмацаваў магутнымі крэпасцямі.

Закончыўшы апавяданне, настаўнік запытаў:

— Якую тэму запішаце ў сшытках?

Міша запрапанаваў:

— Паўстанне Кіеўскай Русі — супольнай дзяржавы ўсходніх славян.

Усе згадзіліся.

**Пытанні і заданні**

*1. Як князі Алег і Уладзімір стварылі Кіеўскую Русь?*

*2. Што вы ведаеце пра полацкую княгіню Рагнеду і яе сына князя Ізяслава?*




**ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!**

Мы хочам расказаць Табе, як рыхтуецца наш клас да свята „Андрэйкаў“.

Дзяўчаты падрыхтуюць чай і пірожныя, а хлопцы задбаюць пра добрую музыку. У праграме прадбачваецца конкурс на найлепшы танец. Рыхтуем многа сцэнак, загадак, гумару і песень, а таксама іншых цікавых гульняў. Не абыдзецца ў гэты вечар без варажбы. Перад намі адкрыюцца таямніцы будучыні.

На наш урачысты вечар запрашаем Цябе, дарагая „Зорка“.

**Вучні 4 „Ц“ класа**
**Падставовай школы № 3**
**у Бельску.**

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!**

У панядзелак, 10 лістапада, нашу школу наведалі гарцэры з Варшавы. Іх візіт быў звязаны з Міжнародным годам Міру. На кожным паверсе нашай школы былі павешаны плакаты. Гэта была выстаўка плакатаў на тэму „Мір — найважнейшае дабро кожнага чалавека“.

Гарцэры спявалі песні і дэкламавалі вершы аб міры. Кульмінацыйным пунктам было збіранне подпісаў за мір і грошай для галадаючых дзяцей Афрыкі і Азіі. Наш клас таксама далучыў свой голас у жаданне міру ва ўсім свеце і ўнёс сваю цаглінку ў тое, каб не бракавала хлеба ўсім дзецям.

**Вучні 4 „А“ класа**
**Падставовай школы № 3**
**у Бельску-Падляшскім.**




СССР, 346905, Ростовская обл., Новошахтинск, ул. Радио, д. 26, кв. 4. Сикоракo Наташе. 7 клас.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, ул. Мелитопольская, 37. Проскуриной Маше. 6 клас.

* * *

СССР, 346503, г. Шахты, Ростовской обл., пер. 1-й Милиционный, 84а, кв. 22. Новожиловой Майе. 7 клас.

**А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А**



**Напішыце апавяданне па гэтай карцінцы. За найлепшае апавяданне — цікавая беларуская кніжка.**

# ПРЫХОДЗЬ, ЁЛКА!

**(Працяг са стар. 9)**

*Дзеці адказваюць.*

У які, кажаце, бок пайшла? У той?

*Паказвае ў бок, супрацьлеглы таму, куды пайшла Снягурачка. Ідзе забава з залай. Нарэшце Дзед Мароз высняе, куды пайшла яго ўнучка.*

Правільна яна пайшла. Значыць, знойдзе цацкі. А мне трэба Пецю знайсці. Гэта, мабыць, цяжэй. І зноў вы тут адны застанецеся. Так быць не можа. Давядзецца зноў артыстаў клікаць на дапамогу.

Гэй, прашу наступны нумар,
Песню, жарт ці добры
вершык.
Падрыхтуйцеся на гумар.
А цяпер — выходзь,
хто першы!

*На сцэну выходзяць артысты, якія ўдзельнічаюць у наступным нумары. Дзед Мароз прадстаўляе іх і пачынаюцца выступленні.*

КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ.

*Дэкарацыя другой карціны. Убягае Пеця, засапаны, з вялікім мяшком за плячыма.*

Пеця. Тут мяне ніхто не ўбачыць. Тут я і перапрануся. *(Развязвае мяшок.)* Карнавал у нашай Танькі толькі паслязаўтра будзе, а ў нас ёлка ўжо сёння. *(Выцягвае касцюм Снягурачкі.)* Зараз я ўміг перамянюся, тады кожная ёлка мая! *(Апранае шапку і кажушок Снягурачкі.)* Ну, чым я не Снягурачка? *(Аглядае сябе.)*

Добра знаюць усе дзеці,
Што я хлопчык,
Што я Пеця.
Але хітрыка адна —
Як правесці Лесуна.

*(Дастае пілу і пачынае пілаваць елку. Раптам прыслухоўваецца.)* Ой, нехта ідзе. Лясун цяпер мне не страшны. *(Глядзіць за кулісы.)* Снягурачка! Што рабіць? У адным прадстаўленні дзвюх Снягурачак не бывае. *(Хаваецца за дрэва.)*

*Уваходзіць Снягурачка.*

Снягурачка *(убачыўшы пакінутую Пецем пілу)*. Ах, бедная елачка! Хтосьці хацеў яе спіліць!

*Уваходзіць Лясун.*

Лясун. Ага, папалася!

*Снягурачка ад нечаканасці выпускае з рук пілу.*

Снягурачка. Гэта не я...

Лясун. Выходзіць, што не Пеця ілгун, а ты...

Снягурачка. Гэта не я, добры Лясун.

Лясун. А вось мы зараз праверым. *(Дастае лупу і, падражаючы дэтэктыву, „вывучае“ месца злачынства.)* Выглядае на тое, што і сапраўды не ты. Вось кавалачак футра, але не ад твайго кажушка. Сляды гінуць вунь каля таго дрэва. Злачынца быццам праз снег праваліўся. Ну, нічога, усё роўна ад мяне не схаваецца. А ты цацкі знайшла?

Снягурачка *(паказвае мяшок)*. Вось яны!

Лясун *(заглядае ў мяшок)*. Добры падарунак дзецям. А цяпер хадзі, я табе пакажу, які будзе мой падарунак дзецям.

Снягурачка. А які?

Лясун. Хадзі, хадзі... *(Выводзіць Снягурачку.)*

*Пеця асцярожна выходзіць з-за дрэва і зноў падкрадаецца да ёлкі.*

Пеця. Цяпер ужо ніхто мне не перашкодзіць.

*Насустрач Пецю з-за куліс выходзіць Дзед Мароз.*

Дзед Мароз *(убачыўшы Пецю, радасна)*. Снягурачка!.. А дзе ж цацкі?

*Пеця разгублена аглядаецца і паказвае на пакінуты Снягурачкай мяшок.*

Пеця. А... я... вось яны!

Дзед Мароз *(падазрона)*. Нешта ў цябе, Снягурачка, голас нейкі не такі?

Пеця. Я вады са студні напіўся, гэта значыць, напілася. Прастудзілася.

Дзед Мароз. Ну, ну!

Пеця. Я больш не буду... Хадзі хутчэй з гэтага лесу. *(Бярэ мяшок з цацкамі і хоча пайсці.)*

Дзед Мароз. Пачакай, а дзе ж твае коскі?

Пеця. А я пад хлопца падстрыглася. Гэта модна.

Дзед Мароз. А калі ж ты іх абрэзала?

Пеця. А... толькі што, дзядуля.

Дзед Мароз. Толькі што? Дзе ж ты ў лесе ножніцы ўзяла?

Пеця. А я... я... пілой адпілавала. Вось яна! *(Паднімае пілу.)*

Дзед Мароз. Вось дык навіна! *(У залу.)* Дзеці, хіба ж валасы пілой адпілоўваюць?

*Дзеці адказваюць.*

Голас Снягурачкі. Дзядуля Мароз, ау!

Дзед Мароз. Хто гэта мяне кліча? *(За кулісы.)* Хто ты?

Голас Снягурачкі. Гэта я, Снягурачка.

Дзед Мароз. Яшчэ адна Снягурачка! Нічога не разумею! *(У залу.)* Дзеці, ці ж бываюць дзве Снягурачкі!

*Дзеці адказваюць.*

*У гэты час Пеця за спіной дзядулі хуценька пераапранаецца.*

Дзед Мароз *(за кулісы)*. Ану, пакажыся, якая ты Снягурачка!

*Уваходзіць Снягурачка.*

І сапраўды!.. А ў нас ужо ёсць Снягурачка.

Снягурачка. Ой, і жартаўнік жа ты, Дзядуля Мароз! Дзе ж яна, твая Снягурачка?

Дзед Мароз. Як дзе? *(Паварочваецца і са здзіўленнем глядзіць на Пецю.)* А, Пеця! Значыць, гэта ты толькі што быў Снягурачкай.

Пеця. Не, я быў Снягурчыкам. Я хацеў елку раздабыць.

Лясун *(уваходзіць з елкай)* І не проста раздабыць, а высекчы без дазволу.

Дзед Мароз *(злосна)*. Без дазволу?

Снягурачка. Дзядуля Мароз, а добры Лясун вунь які нам падарунак прынёс! *(Паказвае на елку.)*

Лясун. Сам выгадаваў у школцы...

Снягурачка. А я цацкі раздабыла.

Заканчэнне ў наступным нумары.



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 20 снежня а 18-й гадзіне.

### РЭЧАНЬКА
(З рэпертуару Фёдара Мікуліча)

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкажі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.









Елка ў тыграў.

### НА КАНЦЭРЦЕ

— Чаму гэты саліст, спяваючы, глядзіць на столь?

— Мае ўражлівую душу і не можа глядзець, як мучацца слухачы.

### ІДЭАЛЬНЫ СЯРЖАНТ

Малады салдат радавы Абразко ў адкрытай гутарцы з саслужыўцамі заявіў:

— Наш сяржант быў бы ідэальным начальнікам, калі б не патрабаваў ад нас, каб мы былі ідэальнымі падначаленымі.

### НАВІНА

— Чулі, кума?

— Чула, як не чуць! Уся вёска гаворыць!

— Уся вёска?

— Усе, ад старога да малога.

— А пра што?

— Скажыце, буду ведаць.

### ТАКСАМА СЛУЖЫЛА

Бабуля прыехала з сяла ў горад і чытае ўнучцы казку пра Іваська-Цялесіка:

— Распаліла Баба-Яга печку і загадала Іваську на лапату сесці...

— Бабуся, а што такое лапата?.. — спытала ўнучка.

— Вось паедзеш у сяло, я табе пакажу лапату! — сказала бабуля.

Дзяўчынка здзіўлена паглядзела на сваю бабулю і са страхам спытала:

— А ты што, таксама калісь Бабай-Ягой служыла?..

### ЗАБАРОНЕНА

У час сваркі жонка запальчыва крычыць:

— Ужо лепш бы я выйшла замуж за чорта, чым за цябе!

— Гэта выключана, — парыруе муж. — Шлюбы паміж найбліжэйшымі сваякамі забаронены.



Скардзіўся лекару на страту памяці, а выпіваць ніколі не забываў.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На калядным кірмашы сілач дэманструе сваю моц.

— Хто выцісне з гэтага лімона хоць кроплю соку пасля мяне, атрымае сто долараў! — аб'яўляе ён.

Шчупленькі чалавечак з публікі бярэцца пабіць рэкорд і, не асабліва напружваючыся, выціскае з лімона паўшклянкі соку.

— Нічога дзіўнага, — гаворыць ён. — Вось ужо трыццаць год, як я працую зборшчыкам падаткаў.

✲

— Няшчасны Чэзарэ! Ад яго ўцякла жонка, не пакінуўшы яму ні сольдзі!

— Ну, я, бадай, яшчэ больш няшчасны: мая жонка не пакідае мне ні сольдзі, ды яшчэ і ўцякаць ад мяне не збіраецца.

✲

У хірурга:

— Сястра, што ў нас сёння?

— Два лёгкія выпадкі — аўтамабільная катастрофа, вытворчая траўма — і, адзін цяжкі — муж, які адмовіўся мыць посуд.

### ПЕРАМЕНЫ

Начальнік глаўка Хітрагляд
Кірує адмыслова:
Па кадрах настрачыў загад
У знак перабудовы.
Там, дзе сядзелі брат і зяць,
Сват з кумам там ужо
сядзяць.
А дзе сядзелі кум і сват —
Занялі месцы зяць і брат.

**Васіль Маеўскі**

З „Весніка Задрыпоніі"

### СПАРТЫЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

Ніколі не ставіць сябе над калектывам фігурыст-адзіночнік Д. Дзвынкевіч. За пятнаццаць год выступленняў ён яшчэ ні разу не ўзнімаўся на п'едэстал.

### БАНТОН

Калі позна вечарам сусед за сцяной уключыў магнітафон, а ў вас магнітафона няма — уключыце адначасова палацёр, пральную машыну і пыласос.



Аб'ект будзем здаваць у дзве чаргі. У першую — здамо пляшкі!





## Кур'ёзы

### ЭМАНСІПАЦЫЯ

Пратэстуючы супраць жаночага нераўнапраўя англічанка Ліба Кроал стала майстрам спорту па дзюдо і іншых прыёмах барацьбы. І гэта не толькі для таго, каб даць добрую аплявуху і паставіць на месца нейкага няпрошанага надакучлівага кавалера. Ведаючы, што традыцыйнымі „гарыламі" (целаахоўнікамі) важных персон з'яўляюцца, як правіла, мужчыны, Ліба Кроал вырашыла, што і яна будзе ніколькі не горш у гэтай ролі. Яна працавала ў якасці асабістага ахоўніка ў вядомых зорак эстрады. І ў рэшце рэшт пайшла працаваць „выкідалам" у начны клуб Хенан у Лондане. І трэба сказаць, што вельмі добра ўпраўляецца з упартымі гасцямі, хаця і не любіць хваліцца сваімі спартыўнымі прыёмамі.

— Я не заўсёды лічу патрэбным выкарыстоўваць сілу, — сціпла кажа яна. — Часцей за ўсё я жартам выгурваю хулігана вон дзякуючы майму абаянню...

Абаянне абаяннем, а лонданскія выпівакі добра ведаюць яе „жарты", пасля якіх доўга баляць суставы.

## Сміх з намі

**Калі пры сустрэчы з ворагам ты не закасваеш рукавы, значыць, у цябе рукі кароткія.**